Published by
BYELORUSSIAN-AMERICAN
ASSOCIATION, Inc., U. S. A.
and BYELORUSSIAN
CANADIAN ALLIANCE

# Беларус

ЦАНА — PRICE $ 50

Address:
BIELARUS
166-34 Gothic Drive
Jamaica, N. Y. 11432

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER OF NORTH AMERICA

Год XVIII № 120 . Красавік 1967. NEW YORK — TORONTO April 1967. Vol. XVIII № 120.

## САКАВІКОВЫЯ ЎГОДКІ Ў НЬЮ ЁРКУ

Сьвяткаваньне 49-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі Актам 25 сакавіка 1918 году ладзіла сёлета ў Нью Ёрку ў нядзелю 19 сакавіка Галоўная Управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня супольна зь Ньюёркаўскім Акруговым Аддзелам БАЗА ды Аддзеламі БАЗА ў Нью Джэрзі й Лёнг Айлэнд.

### БОЖАЯ СЛУЖБА

Як і заўсёды, сьвяткаваньне пачалося Божай Службай у катэдральным саборы БАПЦарквы сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Урачыстую Абедню й Малебен адслужыў архіяпіскап БАПЦарквы Васіль у суслужэньні з а. Юрым. У часе Службы Уладыка Васіль зьвярнуўся да вернікаў з глыбака патрыятычным казаньнем.

### УРАЧЫСТАЯ АКАДЭМІЯ

А 3-й гадзіне папаўдні ў залі Білтмор-Гатэлю пачалася ўрачыстая Акадэмія амэрыканскім гімнам, які выканала сьпявачка Ліза Маркоўская пад акампаньямант праф. Э. Зубковіч, і малітвай Уладыкі Васіля за Беларускі й Амэрыканскі народы. Пасьля гэтага старшыня Галоўнай Управы БАЗА інж. М. Гарошка афіцыйна адчыніў Акадэмію, прывітаўшы гасьцей і сказаўшы пaангельску даўжэйшую прамову.

Пасьля гэтага д-р Ул. Бакуновіч прачытаў у беларускай мове старанна апрацаваны глыбокі зьместам даклад пра ідэйную, палітычную й юрыдычную існасьць Акту 25 Сакавіка. У словах, поўных аптымізму, ён выказаў веру, што Беларускі Народ, узыйшоўшы ў 1918 годзе на шлях дзяржаўнай незалежнасьці, ніколі з гэтага шляху ня зыйдзе, бо адно собская дэмакратычная й вольная дзяржава, ўзапраўды незалежная й сувэрэнная, можа загарантаваць поўнае палітычнае, эканамічнае й культурнае разьвіцьцё.

Тады выступіў Віцэ-Прэзыдэнт Рады БНР Аляксандар Стагановіч і ў кароткіх, але гарачых словах прывітаў прысутных ад імя Прэзыдэнта й Рады БНР.

### ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

Губэрнатары штатаў Нью Ёрк Нэльсан Рокфэлер, Нью Джэрзі Рычард Гюз і Пэнсыльвэніі Рэймонд Шэфэр, на просьбу Галоўнай Управы БАЗА, абвесьцілі адмысловымі праклямацыямі ў сваіх штатах дзень 25 сакавіка 1967 году Днём Незалежнасьці Беларусі. Тэксты гэтых праклямацыяў былі прачытаныя на Акадэміі. Таксама была прачытаная праклямацыя мэра гораду Нью Бранcьвік Чэстэра Паўлюса пра абвешчаньне ў гэтым горадзе Дня Незалежнасьці Беларусі й такая-ж праклямацыя старшыні павету Насаў, штату Нью Ёрк, Эўджэн Нікэрсана.

Ад часу, як толькі Беларусы пачалі сьвяткаваць угодкі сваёй незалежнасьці, мэр гораду Нью Ёрку заўсёды абвяшчаў у гэтым горадзе Дзень Незалежнасьці Беларусі. Рабіў гэта сыстэматычна папярэдні даўгагодні мэр Нью Ёрку Робэрт Вагнэр, зрабіў гэта таксама пазалетась выбраны новы мэр Нью Ёрку Джон Ліндзі ў леташнім годзе. Ён-жа летась навет дэлегаваў свайго асыстэнта Кастантына Сідамон-Эрыстофа, які на Акадэміі, ладжанай БАЗА прачытаў праклямацыю й ад імя мэра сказаў прывітальную прамову.

Сёлета-ж на просьбу Галоўнай Управы БАЗА абвесьціць у горадзе Нью Ёрку Дзень Незалежнасьці Беларусі, мэр Джон Ліндзі неспадзявана цераз свайго шэфа Аддзелу Праклямацыяў Морыса Каплана адказаў адмоўна, цьвердзячы, што гэтая справа ёсьць складовай часткай Тыдня Паняволеных Народаў, які адзначаецца ў ліпені кажнага году. Сярод Амэрыканцаў беларускага паходжаньня, якія, дарэчы, аднагодна падтрымалі Ліндзі ў часе пазалеташніх выбараў, гэты ягоны паступак выклікаў зразумелае агарчэньне й глыбокае расчараваньне.

### ПРЫВІТАЛЬНЫЯ ПРАМОВЫ ГАСЬЦЕЙ

На Акадэміі першым выступіў з доўгай прывітальнай прамовай б. кангрэсмэн ад Ньюёркаўскага штату Гамільтон Фіш, які, будучы кангрэсмэнам на працягу 40 год, заўсёды быў актыўным супраць камунізму. Ён-жа быў адным із заснавальнікаў Кангрэсавага Камітэту дзеля расьсьледваньняў супрацьамэрыканскай дзейнасьці. Пасьля яго прамаўлялі прадстаўнікі іншанацыянальных арганізацыяў: старшыня Украінскага Работніцкага Саюзу Антон Бацюк, старшыня амэрыканскай філіі Лігі Вызваленьня Народаў СССР (Парыскага Блёку) враф. Г. Накашыдзэ (Грузін), прадстаўнік Антыкамуністычнага Інтэрнацыяналу А. Джэрыч (Харват), прадстаўнік Амэрыканскай Асацыяцыі правоў на собскасьць Лі Стэрлінг, сакратар Антыкамуністычнага Інтэрнацыяналу й старшыня Жыдоўскай Сэкцыі Антыкамуністычнага Інтэрнацыяналу Гавів Шыбер, лідэр антыкамуністычных сілаў у Баўгарыі да 1951 году ген. Дыко Дзімітраў.

Усе прамоўцы выказалі салідарнасьць зь Беларускім Народам у ягоным змаганьні за вызваленьне з расейска-камуністычнай няволі й за дзяржаўную незалежнасьць сваёй Бацькаўшчыны.

Далей былі прачытаныя пісьмовыя прывітаньні ад Прадстаўніцтва Выканальнага Органу Украінскай Нацыянальнай Рады ў ЗША, старшыні Амэрыкнскай Рады за Незалежнасьць Паўночнага Каўказу д-ра Рамазана Карчы, ад Задзіночаньня Беларусаў штату Іліной, Галоўнага Кіраўніцтва Згуртаваньня Беларускай Моладзі Амэрыкі, ад управаў Адзелаў БАЗА й інш.

### ПРЫВІТАНЬНІ АД СЯБРОЎ КАНГРЭСУ

Былі атрыманыя й прачытаныя на Акадэміі прывітальныя тэлеграмы й лісты ад наступных сэнатараў ЗША: Вільям Фальбрайт — сэнатар ад штату Арканзас і старшыня Сэнацкага Камітэту Вонкавых Дачыненьняў, Вальтэр Мондэйл — сэнатар ад штату Мінэсота, Джозэп Кларк — сэнатар ад штату Пэнсыльвэнія, Томас Кучэль — сэнатар ад штату Каліфорнія, Джэмс Пірсан — сэнатар ад штату Канзас, Томас Дад — сэнатар ад штату Канэктыкат, Чарлс Пэрсі — сэнатар ад штату Іліной, Пэтэр Домінік — сэнатар ад штату Колёрадо, Джэкоб Джэвітс — сэнатар ад штату Нью Ёрку, Роман Грушка — сэнатар ад штату Нябраска, Гюз Скот — сэнатар ад штату Пэнсыльвэнія, Эвэрэт Дырксэн — сэнатар ад шатату Іліной і лідэр Рэспубліканскай фракцыі Сэнату, Вільям Проксмайр — сэнатар ад штату Вісконзін, Франк Ляўшэ — сэнатар ад штату Огаё.

Сэнатар Томас Дад у сваім прывітальным лісьце, між іншым, піша: "... Although the trend at the moment appears to be against us, those of us who know the meaning of communism must never abandon hope. To do so would be to betray the trust and confidence of all the peoples who have been enslaved by communist imprisonment.

I believe that your organization and other organizations like it perform a service to the entire free world in helping to keep the issue of the captive nations alive in reminding us that freedom is the Godgiven right of all peoples, and not just of our own nation.

Ніжэй прыводзім, як асабліва характэрны, урывак з прывітальнага ліста сэнатара Эвэрэт Дырксэна:

I have spoken in the Senate pertaining to giving self-determination to the captive peoples behind the Iron Curtain in the past and shall continue to do so in the future. Let me extend the hope that your function on March 25, Byelorussian independence day, will be most successful.

Беларускае грамадзтва Нью Ёрку з нагоды 49-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі віталі адмысловымі тэлеграмамі й лістамі наступныя кангрэсмэны: Джон Бакэнэн (Алябама), Джон Вайдлер (Нью Ёрк), Франк Гортон (Нью Ёрк), Клемэнт Заблоцкі ,Нью Ёрк), Джон Руні (Нью Ёрк), Самуэль Стратон (Нью Ёрк), Самуэль Фрыдль (Мэрылэнд), Гэнры Шэдэбэрг (Віскансін), Гленард Лібскамб (Каліфорнія), Эдвард Дэрвінскі (Іліной), Вільям Райен (Нью Ёрк), Пэтэр Родыно (Нью Джэрзі), Сэймур Гальпэрн (Нью Ёрк), Эдвард Патэн (Нью Джэрзі), Дональд Люкэнс (Огаё), Фрэд Швэнгэль (Айова), Эдна Кэлі (Нью Ёрк), Джон Дынгель (Мічыган), Джэмс Граўэр (Нью Ёрк), Флёрэнс Двайер (Нью Джэрзі), Джозэп Мініш (Нью Джэрзі), Мэндэль Рывэрс (Саўт Каролайна), Леонард Фарбштайн (Нью Ёрк), Робэрт Тафт (Огаё), Альвін О'Конскі (Віскансін), Джон Мэйерс (Індыяна), Абрагам Мальтэр (Нью Ёрк), Джэмс Бэрн (Пэнсыльвэнія).

Былі прысланыя пісьмовыя прывітаньні ад губэрнатара Нью Ёрку Нэльсана Рокфэлера, губэрнатара Пэнсыльвэнніі Раймонда Шэфэра й ад мэра гораду Нью Ёрк Джона Ліндзі. Тэкст врывітальнага ліста ад мэра Нью Ёрку Джона Ліндзі наступны:

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

## У ГУБЭРНАТАРА ШТАТУ НЬЮ ДЖЭРЗІ



**Дэлегацыя БАЗА ў Нью Джэрзі й іншых беларускіх арганізацыяў у Нью Бранcьвіку наведала 7 сакавіка Губэрнатара штату Нью Джэрзі Рычарда Джэй Гюза, які ў ейнай прысутнасьці падпісаў Праклямацыю пра абвешчаньне ў сваім штаце дня 25 сакавіка Днём Незалежнасьці Беларусі. На фотаздымку: урачыстасьць падпісаньня Праклямацыі. У першым радзе зьлева направа: Ганна Стома — сяброўка БАЗА й працаўніца Стэйт Офісу Губэрнатара Нью Джэрзі, Губэрнатар Нью Джэрзі Рычард Гюз, Ала Лосік — старшыня ЗБМА ў Нью Джэрзі. У другім радзе зьлева направа: Браніслаў Даніловіч — скарбнік Галоўнай Управы БАЗА й віцэ-старшыня БАЗА ў Нью Джэрзі, Тамара Януш — старшыня Беларускага Жаноцкага Згуртаваньня ў Нью Джэрзі, Сяргей Гутырчык — старшыня БАЗА ў Нью Джэрзі, Пётр Кажура — старшыня Царкоўнай Рады ў Гайлэнд Парк (Нью Бранcьвіку).**

## У СЭНАЦЕ ЗША

Дэлегацыя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў складзе Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскапа Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Ўладыкі Васіля, старшыні Галоўнай Управы БАЗА інж. Мікалая Гарошкі й рэфэрэнта вонкавых дачыненьняў Галоўнай Управы База д-ра Станіслава Станкевіча наведала 23 сакавіка Сэнат ЗША ў Вашынгтоне. З прычыны адсутнасьці ў гэты дзень у Сэнаце Віцэ-Прэзыдэнта ЗША Губэрта Г. Гамфры, зь ягонага даручэньня заступаў яго й кіраваў сэсіяй Сэнату сэнатар ад штату Канзас Франк Карлсан.

Сэнатар Франк Карлсан вельмі прыязна й цёпла прыняў Уладыку Васіля й усю беларускую дэлегацыю. Калі зазваніў званок, як знак, што сэсія Сэнату пачынаецца, сэнатар Карлсан увёў пад руку Уладыку Васіля за прэзыдыяльны стол, прадставіў яго Сэнату й паведаміў, што сяньня прыпадаюць 49-ыя ўгодкі абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі й што з гэтае нагоды Архіяпіскап БАПЦарквы Васіль адчыніць сэсію Сэнату малітвай за Беларускі й Амэрыканскі народы.

Уладыка Васіль узыйшоў на трыбуну й гаразна прачытаў малітву, якую ўсе прысутныя ў залі паседжаньняў выслухалі стоячы. Зьмест малітвы наступны:

**PRAYER ON BYELORUSSIAN INDEPENDENCE DAY OFFERED BY THE MOST REVEREND ARCHBISHOP VASILI OF THE BYELORUSSIAN AUTOCEPHALIC ORTHODOX CHURCH IN AMERICA, IN THE UNITED STATES SENATE ON MARCH 23, 1967, IN WASHIGTON, D. C.**

**In the Name of the Father, and the Son, and the Holy Ghost. Almighty God, our heavenly Father! We, Thy children, humbly bow our heads before Thee, acknowledge Thy Divine Benevolence and offer our profound gratitude for the abundant blessings Thou hast bestowed upon America and her people.**

**O Lord and Redeemer! Come to the aid of our beloved President and Vice-President, illumine with Thy wisdom, knowledge and love this august body, the Honorable Senate of the United States, this temple of peace, freedom, and justice.**

**Eternal God and Savior! We pray today for Thy divine mercy and judgment for the welfare of the Byelorussian Nation, whose Proclamation of Independence, as the Byelorussian National Republic was declared 49 years ago, and whose people have striven during these years to free themselves from the tyranny of on atheistic oppression, in the hope of enjoying the liberties and freedom, under God, as is the way in the United States. We pray today that the benefits of freedom granted to democracies all over the world may serve as an infallible encouragement to the people of Byelorussia, for the vision of everlasting freedom is not lost among them, but burns as a torch deep in their hearts with the desire to belong to the worldwide family of the free and God-fearing nations. O God and Redeemer! We faithfully implore Thee: accept this our prayer, bless the United States of America and Byelorussia.**

**May Thy glorious Name, our God and Savior, reign and shine in our hearts and be blessed now and forever. Amen.**

Пасьля малітвы сэнатар Франк Карлсан меў гутарку зь беларускай дэлегацыяй, цікавіўся беларускім пытаньнем і спачуваў цяжкай долі паняволенага Беларускага Народу. Наапошку сэнатар Карлсан сфатаграфаваўся зь беларускай дэлегацыяй (фатаграфія будзе зьмешчаная ў наступным нумары).

Гэтага-ж і папярэдняга дня ў вабедзьвюх палатах Кангрэсу — Сэнаце й Палаце Рэпрэзэнтантаў — шмат якія сэнатары й кангрэсмэны выступалі з прамовамі на тэму дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. Таго-ж дня, калі Уладыка Васіль чытаў малітву, выступалі з такімі прамовамі аж сямёх сэнатараў. Таго-ж і папярэдняга дня ў Палаце Рэпрэзэнтантаў прамаўляла на тэму незалежнасьці Беларусі значная колькасьць кангрэсмэнаў.

Рэзалюцыя, што была прынятая на ўрачыстай Акадэміі ў Нью Ёрку, ладжанай БАЗА 19 сакавіка на 49-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, была ў гэны дзень 23 сакавіка двойчы прадстаўленая ў Палаце Рэпрэзэнтантаў кангрэсмэнам із штату Алябама Джонам Бакэнэнам і кангрэсмэнам із штату Нью Ёрку Абрагамам Мальтэрам. У вадпаведнасьці з гэтым была яна двойчы надрукаваная і ў „Кангрэсавым Рэкордзе" за 23 сакавіка.

Агляд прамоваў у Сэнаце й Палаце Рэпрэзэнтантаў, сказаных з нагоды 49-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, будзе зьмешчаны ў наступным нумары „Беларуса".

### ПАДЗЯКА

**Усім тым арганізацыям і паасобным Грамадзянам, што нас віншавалі з 49-ымі ўгодкамі абвешчаньня Дзяржаўнай Незалежнасьці Беларусі, выказваем гэтай дарогай нашую шчырую падзяку.**

**Галоўная Управа БАЗА**
**Рэдакцыя газэты „Беларус"**

### НОВАЯ УПРАВА АДДЗЕЛУ БАЗА Ў ДЭТРОЙТ

На агульным сходзе 26 лютага была выбраная новая Управа Аддзелу БАЗА ў Дэтройце ў наступным складзе' мгр. Васіль Пляскач— старшыня, д-р Лявон Трусэвіч — сакратар, сп. Мікалай Артон—скарбнік.

Новай Управе жадаем плённае працы на карысьць беларускай нацыянальнай справы.

### 12-Ы КАНГРЭС БАЗА

Галоўная Управа БАЗА на сваім паседжаньні 15 красавіка пастанавіла склікаць 12-ы Кангрэс Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня на сыботу 27 і нядзелю 28 травеня 1967 году. Кангрэс адбудзецца ў Нью Бранcьвіку й пачнецца ў сыботу 27 травеня а 11-ай гадзіне ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру (пад царквой), 9 Рывэр Роад, Гайлэнд Парк (прадмесьце Нью Бранcьвіку). У нядзелю 28 травеня нарады Кангрэсу пачнуцца адразу пасьля Божае Службы.

**ПАШТОВЫ АДРЫС „БЕЛАРУСА",**
**на які просім высылаць лісты й грошы на газэту, цяперака гэтакі:**
**Newspaper BIELARUS**
**P. O. Box 109**
**Jamaica, N. Y. 11431**

**BIELARUS**

**Byelorussian Newspaper of North America**
**Published monthly by**
**BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.**
**and BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE**
Address in U.S.A.: 166 — 34 Gothic Drive, Jamaica, N. Y. 11432.
Address in Canada: Byelorussian Canadian Alliance
524 St. Clarence Avenue Toronto 4, Ont.
Subscription $ 6.00 yearly.

**БЕЛАРУС** — Беларуская газэта Паўночнае Амэрыкі
Выходзіць месячна. **Рэдагуе Калегія.**
Выдаюць: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
й Згуртуваньне Беларусаў Канады.
Выпіска зь перасылкою — 6 дал. на год.

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

**Ўдзельнікаў сьвяткаваньня 49-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, арганізаванага ў Нью-Ёрку 19-га сакавіка 1967-га году Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем у ЗША**

Штогоду ў сакавіку Амэрыканцы беларускага паходжаньня й Беларусы жыхары Задзіночаных Штатаў адзначаюць угодкі незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, абвешчанае ў Менску 25 сакавіка 1918-га году. Кажнага разу сьвяткаваньне гэтае дае нагоду пераканацца на сьвежых фактах, наколькі жывая ідэя нацыянальнае свабоды Беларусі.

Калі азірнуцца на мінулы год часу, добра відаць, што ўсюды, дзе жывуць Беларусы, жыве разам зь імі й думка пра свабоду роднага краю. Жыве яна таксама і ў беларускім народзе на бацькаўшчыне. Пераканацца ў гэтым найлепш можна з выпадаў і кляцьбы камуністычнае прапаганды, кіраванае супраць тых, хто выкрывае перад вонкавым сьветам факт каляніяльнага паняволеньня Беларусі Масквою — супраць гэтак званых беларускіх буржуазных нацыяналістых ды адначасна супраць Амэрыкі.

Ня вылучаная магчымасьць, што якраз цяпер, калі мы прыймаем тут нашу сяньняшнюю рэзалюцыю, некаторыя амэрыканскія грамадзяне пераглядаюць у сябе, прысланую ім поштаю бязь іхнае на гэта просьбы, выдадзеную ў Менску кніжыцу, на 95-х бачынах якое поўна чорных інсынуацыяў у дачыненьні да Амэрыкі, да амэрыканскіх Сэнатараў, да Беларусаў-эмігрантаў і да амэрыканскіх грамадзянаў беларускага паходжаньня.

Што-ж гэта за зьява? Чаму ўрад Савецкае Беларусі, які не дае паперы на выданьне беларуска-ангельскага слоўніка ці навет на беларускі каляндар, знаходзіць гэтую паперу на рассыланьне па цэлым сьвеце кніжыцаў з палітычнымі пашквілямі? Супраць чаго, у гэтым выпадку змагаецца камуністычная партыя?

Адказ на гэтыя пытаньні знойдзем, калі прыгледзімся да тых ідэйных фэрмэнтаў, што нуртуюць у беларускім народзе, асабліва ў ягоным маладым пакаленьні.

Гэтак, яшчэ ў сакавіку летась першы сакратар Цэнтральнага Камітэту Кампартыі Беларусі П. Машэраў на XXVI-м зьезьдзе КПБ заклікаў партыйцаў „непрымірыма адносіцца да самых малых праяўленьняў месьніцтва й нацыянальнае абмежаванасьці” — тэрміны, якімі савецкая прапаганда прыкрывае намаганьне Беларусаў быць самім гаспадарамі на сваёй зямлі. Машэраў заклікаў таксама партыйных актывістых „асаблівую ўвагу ўдзяляць школьным і студэнцкім камсамольскім арганізацыям” (**„Зьвязда”**, 4. III. 66). Падобныя клічы не даюць, аднак, пажаданых партыяй вынікаў. Роўна за год пасьля заклікаў П. Машэрава менская газэта **„Чырвоная зьмена”** (7. III. 67) ізноў піша, што на IV пленуме ЦК Камсамолу Беларусі вялася „войстрая размова” на тэму „ідэйна-палітычнага выхаваньня студэнтаў і навучэнцаў”.

Што-ж выклікае „войстрыя размовы” партыйных дзейнікаў зь беларускай моладзяй, зь беларускім народам? Сябра Цэнтральнага Камітэту Кампартыі Беларусі С. Пілатовіч нядаўна крануўся аднае, ці не галоўнае, прычыны. У першым сёлетнім нумары часапісу **„Камуніст Беларусі”** (№ 1, б. 27) Пілатовіч жаліцца, што „буржуазная прапаганда й буржуазныя нацыяналістыя, якія ў яе на службе ... імкнуцца пасеяць пустазельле буржуазнага нацыяналізму”. У гэтым „пустазельлі”, як паказала ўся гісторыя камуністычна - маскоўскае тыраніі, партыя вычувае найбольшы выклік свайму манаполю на ўладу. Яшчэ ў жнівені 1966 году **„Камуніст Беларусі”** пісаў у сваёй перадавіцы (№ 8, б. 8): „Буржуазная прапаганда ськівроўвае сваё вайстрыё супраць нацыянальнае палітыкі камуністычнае партыі. У гэтым дачыненьні асаблівы запал выяўляюць рэшткі буржуазных нацыяналістых, у тым ліку й беларускіх. Ня трэба зачыняць вачэй на тое, — перасьцерагала перадавіца далей, што часамі паасобныя нашы людзі пападаюць пад уплыў буржуазнае прапаганды й становяцца носьбітамі нацыяналістычных, шавіністычных тэндэнцыяў”.

З мэтай супрацьдзеяньня гэткім „тэндэнцыям” кампартыя Беларусі змусіла ў кастрычніку леташняга году васьмёх маладых беларускіх пісьменьнікаў выступіць на балонках рэспубліканскіх газэтаў, а таксама маскоўскае „Литературной газеты” (22. X. 66) з артыкулам-атакай на беларускіх замежных літаратараў і палітычных дзеячоў, пад загалоўкам „Ня вам Беларусамі звацца”. Але гэта быў вымушаны крок збоку васьмёх маладых пісьменьнікаў. Выпад на беларускіх эмігрантаў яны падпісалі, але свайго беларускага патрыятызму Маскве не прадалі. Як-бы рэгабілітуючыся за выкарыстаньне іхных імёнаў для прапагандава-палітычнага манэўру, яны адначасна задэкляравалі бязьмежную любасьць да свайго краю, які Масква ўсімі сіламі намагаецца зрусыфікаваць: „Для нас, маладых беларускіх пісьменьнікаў — заявілі васьмёх — няма нічога больш дарагога, чым Маці-Беларусь, зямля нашых продкаў, край славуты й чароўны. Мы з гонарам называем сябе Беларусамі”.

Гонар называць сябе Беларусамі ў нашым народзе мае глыбокую ідэйную й палітычную пасьлядоўнасьць. Найсьвяжэйшая ілюстрацыя гэтага — другі зьезд кінэматаграфістых Беларусі, што адбыўся сёлета 14 і 15 лютага ў Менску. На гэтым зьезьдзе адзін па адным прамоўцы, змагаючыся з русыфікацыяй беларускага кінамастацтва, дамагаліся, каб беларускае кіно выяўляла нацыянальны твар Беларусі, пашырала нацыянальныя традыцыі, карысталася нацыянальнай мовай і нацыянальнымі кадрамі.

Якая была на гэта рэакцыя ўраду БССР? Прадстаўнік гэтага ўраду, старшыня Камітэту па кінаматаграфіі пры Савеце Міністраў БССР Б. Паўлёнак зьвінаваціў зьезд кінэматаграфістых Беларусі ў нацыяналізьме за тое, што Беларусы хочуць рабіць „беларускае кіно беларускімі рукамі” (**„Літаратура і Мастацтва”**, 21. II. 67).

На працягу апошняга году ня мінала й тыдня, каб камуністычная прапаганда на Беларусі не рабіла выпадаў супраць беларускае палітычнае эміграцыі й супраць Амэрыкі за падтрымоўваньне беларускага нацыяналізму. І гэта найвымаўней сьветчыць пра тое, што палітычны высілак Беларусаў у Задзіночаных Штатах ня йдзе намарна: ягонае рэха дакочваецца да бацькаўшчыны, дае добрыя вынікі. Высілак гэты трымае на духу беларускіх патрыётаў на родных землях, ён вядзе да паслабленьня ланцугоў каляніяльна-расейскае няволі ў Беларусі, ён узмацняе надзею на тое, што надыйдзе час, калі беларускі народ здолее жыць самастойным свабодным жыцьцём.

Дзеля гэтага мы, удзельнікі сьвяткаваньня ў Нью-Ёрку 49-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, урачыста й аднадушна пастанаўляем і прыракаем весьці далей сваю працу на карысьць свабоды Беларусі, на адраджэньне сувэрэннае й вольнае Беларускае Народнае Рэспублікі.

Няхай нам Бог дапаможа ў гэтым.

Нью-Ёрк, 19. III. 1967 г.

# САКАВІКОВЫЯ ЎГОДКІ Ў НЬЮ ЁРКУ

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)



**Танцавальны Гурток ЗБМА выконвае народны танец „Мікіта”.**



**Мікола Стрэчань**

„We are approaching the 49th anniversary of the birth of the Byelorussian Democratic Republic, which has become nothing but a satrapy of the Soviet Union.

You do well to celebrate this anniversary as a symbol of national aspiration. May I join you in spirit, if not in person, on this important occasion.”

### ПРЫНЯЦЬЦЕ РЭЗАЛЮЦЫІ

Пасьля гэтага была аднагалосна прынятая палітычная рэзалюцыя ад імя ўдзельнікаў сьвяткавальнай Акадэміі, тэкст якой друкуецца на іншым месцы гэтага нумару газэты. Гэтая рэзалюцыя была перасланая Прэзыдэнту ЗШАЛіндан Б. Джансану, Віцэ-Прэзыдэнту Губэрту Г. Гамфры, тым сэнатарам, кангрэсмэнам, губэрнатарам штатаў і мэрам гарадоў, якія ў той ці іншы спосаб выказалі сымпатыі да Беларускага Народу й маральна й палітычна падтрымлівалі ягоныя нацыянальна-вызвольныя імкненьні.

Наапошку былі прынятыя прывітальныя тэлеграмы Прэзыдэнту ЗША Ліндан Б. Джансану, Віцэ-Прызыдэнту ЗША Губэрту Г. Гамфры, Прэзыдэнту Рады БНР Міколе Абрамчыку, амэрыканскім сэнатарам, кангрэсмэнам, губэрнатарам і мэрам некаторых гарадоў, у якіх жывуць Беларусы.

Афіцыйная частка Акадэміі была закончаная агульным прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

### МАСТАЦКІЯ ВЫСТУПЛЕНЬНІ

Даклады й прамовы былі ўдала пераплятаныя мастацкімі выступленьнямі. Ведамыя здольныя сьпявачкі Кляўдыя Джыль-Ярашэвіч і Ліза Маркоўская спачатку выканалі дуэтам дзьве песьні: „Васілёчкі” на словы Ларысы Гэніюш, музыкі К. Барысаўца, і „Баркароля” з „Казкаў” Гофмана, муз. Офэнбаха.

Пазьней Кляўдыя Джыль-Ярашэвіч выканала солё народную песьню „Замуж пайсьці — трэба знаць” у музычным апрацаваньні праф. Э. Зубковіч, песьню „Фіялка” на словы Натальлі Арсеньневай, муз. праф. Э. Зубковіч, і „Арыю Джыльды” з опэры Вэрды „Рыголето”.

Ліза Маркоўская прапяяла солё наступныя песьні: арыю з опэры Бізэ „Кармэн”, „Восень” на словы Алеся Гаруна, муз. праф. Э. Зубковіч, „На чужыне” на словы Максіма Багдановіча, муз. Багатырова. Да ўсіх сьпеваў акампаньнявала на фартэпіяне праф. Э. Зубковіч.

Абедзьве сьпявачкі, шырака ведамыя ў Нью Ёрку й паза Нью Ёркам, сваймі прыгожымі й сьвежымі галасамі ды высокай сьпявацкай культурай глыбака зачароўвалі прысутных.

Гучныя воплескі сабраў малады беларускі сьпявак Мікола Стрэчань, які, пад акампаньямант свайго собскага прафэсара Ньюёркаўскай кансэрваторыі Е. Фалькомата, выканаў дзьве песьні: „Не за вочы чорныя” на словы Адама Русака, муз. Ю. Семянякі, і арыю з опэры Вэрды „Рыголето”. Мікола Стрэчань — сьпявак-тэнар зь вялікімі задаткамі таленту й моцным голасам, упяршыню выступаў на Ньюёркаўскай сцэне перад беларускімі слухачамі.

Зь вялікім захапленьнем прысутныя праглядзелі два беларускія народныя танцы „Вяночкі” й „Мікіту” ў дасканалым выкананьні Танцавальнага гуртка ЗБМА пад кіраўніцтвам сп-ні Алы Орсы-Рамано. У міжчасе маленькая Тамара Стагановіч зь Нью Брансьвіку прыгожа прадэклямавала верш Міхася Машары „25 Сакавік”.

Усе канцэртныя нумары праграмы былі на высокім мастацкім і прафэсіянальным узроўні.

Усю сьвяткавальную праграму вёў у беларускай і добрай ангельскай мове сп. Янка Запруднік. Рабіў ён гэта вельмі ўмела й старанна, што ў вялікай меры спрычынілася да ўдалага правядзеньня вечару.

З асаблівай прыемнасьцяй і ўдзячнасьцяй трэба адзначыць шматкольскасны ўдзел у сьвяткаваньні нашых суродзічаў зь Нью Брансьвіку, якія зарганізавана прыехалі ў Нью Ёрк спэцыяльным аўтобусам.

Пасьля заканчэньня афіцыйнай праграмы адбыўся таварыскі катэйль, які працягнуўся да познага вечара.

Наагул-жа сёлетняя сьвяткавальная Акадэмія ў Нью Ёрку была на высокім ідэйным, палітычным і мастацкім узроўні.

**Ст. Станкевіч**

# САКАВІКОВАЕ СЬВЯТА Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ

У нядзелю 26 сакавіка Кліўлендзкі Аддзел БАЗА ўрачыста адзначыў 49-ыя ўгодкі Акту 25 Сакавіка. У БАПЦаркве Жыровіцкае Божае Маці, пасьля звычайнае сьв. Літургіі, а. А. Крыт адслужыў з нагоды нацыянальнае ўрачыстасьці малебен. Вялікая колькасьць вернікаў у царкве, вынас сьцягоў ды прыгожы сьпеў хору пад кіраўніцтвам сп. К. Кіслага — усё гэта надавала ўрачысты й малітоўны настрой.

4-ай гадз. папаўдні ў залі БАП-Царквы распачалася ўрачыстая акадэмія. Гэты год сьвяткаваньне адбылося бяз чужых гасьцей, апрача шчырых нашых прыяцеляў Славакаў. Сп. М. Стрэчань прайграў на піяніне амэрыканскі гімн. Старшыня Аддзелу БАЗА сп. С. Карніловіч у кароткіх словах адчыніў акадэмію. Сп-чня Г. Кананчук прачытала праклямацыю губэрнатара Огаё й мэра гораду Кліўленд. Тады сп. Юрка Станкевіч зь Нью Ёрку прачытаў добра апрацаваны рэфэрат на тэму дня.

Пасьля кароткага перапынку распачалася мастацкая частка пад кіраўніцтвам сп. К. Кіслага. Наўперад выступіла Беларуская Сыботняя Школа. Школьны хор пад акампаніямант М. Стрэчэня прапяяў тры песьні, а танцавальны гурток пад музыку В. Міраеўскага выканаў народны танец „Мікіту”. Вучань 3-яе клясы В. Каваленка прадэклямаваў верш. Салістка Іра Каляда-Сьмірнова прыгожа выканала некалькі песьняў. Тады Оля Лукашэвіч і Таццяна Кананчук прапяялі дуэт.

Вялікае ўражаньне зрабіў на прысутных ужо добра падрыхтаваны жаноцкі ансамбль пад кіраўніцтвам сп. К. Кіслага. Для солё, дуэту й ансамблю акампаніяваў на акардыёне Ул. Літвінка. На заканчэньне выйшаў на сцэну школьны хор і ўсе сьпевакі й разам з прысутнымі на залі прапяялі нацыянальны беларускі гімн.

**Ул. Д.**

# УГОДКІ 25 САКАВІКА Ў ДЭТРОЙЦЕ

Сьвяткаваньне 49-ых угодкаў Акту 25 Сакавіка ў Дэтройце сёлета адбылося ўжо 12 сакавіка. Сьвяткаваньне было зладжанае мясцовым Аддзелам БАЗА.

Урачыстую Божую Службу й малебен адслужыў архімандрыт БАП-Царквы а. Мікалай Мацукевіч, а сьпяваў царкоўны хор пад кіраўніцтвам ведамай нашай сьпявачкі Веры Арцюх.

Урачысты сход адчыніў і прачытаў адпаведны рэфэрат старшыня мясцовага Аддзелу БАЗА мгр. Васіль Пляскач. Тады былі прачытаныя прывітаньні ад Галоўнай Управы й Аддзелаў БАЗА, а так-жа ад Украінцаў.

Мастацкая частка ўрачыстасьці была спалучаная із супольным банкетам. Сп-ня Лена Пляскач выканала на фартапіяне Сымфонію Бэтховэна, сп-ня Вера Арцюх прапяяла дзьве песьні: „Васілёчкі” музыкі камп. М. Кулвковіча й „Белавежа” музыкі сп. Юркі Мазуры. Сп-ні Вера Арцюх, Таццяна Жылік і Людміла Рагуля прыгожа выканалі пад акампаніямант Юркі Мазуры трыё „Дрэмлюць ціха нівы” на словы Лойкі муз. камп. А. Карповіча, а св-ня Вера Булат прапяяла ўкраінскую песьню „Ручнічок”.

Сьвяткаваньне прайшло ў высокім патрыятычным настроі й у мілай сяброўскай атмасфэры.

**Х.**

**Часьць матарыялаў і справаздачаў із сьвяткаваньняў 49-ых угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, што былі намі атрыманы спозьнена або не зьмясьціліся ў гэтым нумары, будуць надрукаваныя ў наступным травенскім нумары „Беларуса”.**

***

### СЬВЯТКАВАНЬНЕ УГОДКАЎ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ Ў БЕЛАРУСКІМ КАНГРЭСАВЫМ КАМІТЭЦЕ

Беларускі Кангрэсавы Камітэт сьвяткаваў 49-ыя ўгодкі Акту 25 Сакавіка зусім незалежна ад БАЗА, ладзячы ўрачыстую Акадэмію 2-га красавіка ў залі гатэлю Білтмор у Нью Ёрку. Сьвятар а. Іван Лапіцкі, які не належыць да Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, па лініі гэтага Камітэту прачытаў 15 сакавіка малітву ў Палаце Рэпрэзэнтантаў Кангрэсу ЗША.

# АЛЬМАНАХ ЗБМА

Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Амэрыцы (ЗБМА) прыступіла да апрацаваньня Альманаху, які мае выйсьці яшчэ сёлета з нагоды 15-годзьдзя арганізацыі.

У Альманаху плянуецца зьмясьціць наступнае: а) кароткую інфармацыю аб арганізацыі, б) інфармацыю аб аддзелах ЗБМА, в) пра дзейнасьць ЗБМА: мастацкую самадзейнасьць, спорт, таварыскае жыцьцё, нацыянальнае ўзгадаваньне, выдавецтва й інш.

Будуць таксама зьмешчаныя здымкі ўсіх цяперашніх і былых сяброў ЗБМА.

Кіраўніцтва ЗБМА зьбірае цяперака матар'ял для зьмяшчэньня ў Альманаху, як фатаграфіі, так і апісаньні мінулае дзейнасьці — зьездаў, экскурсіяў, спартовых сустрэчаў і г. п.

Матар'ял для зьмяшчэньня ў Альманаху прыймаецца да 1-га травеня 1967 г. Просім перасылаць яго на адрыс кіраўніка ЗБМА сп. А. Лысюка:

Mr. G. Lysiuk
Route 1, Box 281 B.
Matawan, N. J.

Увесь прысланы матар'ял будзе зьвернуты пасьля надрукаваньня ў Альманаху.



# Весткі з Канады



ALLIANCE
524 St. Clarence Avenue
Toronto 4, Ont.
Матарыялы да друку, ахвяры й падпіску просім прысылаць на адрыс:
Dr. R. Zuk
54 Mary Street
Barrie, Ont. Tel. 728-7581
Advertising rate — $ 1.25 per column inch.

## Сакавіковыя Ўгодкі у Таронта



На сьвяткаваньні 49-ых угодкаў Акту 25 Сакавіка ў Таронта.

Гэтак як па ўсім вольным сьвеце, куды толькі забрылі Беларусы, так і ў Таронта й ягоных ваколіцах сакавік пульсуе прысьпешаным беларускім жыцьцём. Для кажнага нашага суродзіча, у галаве якога днее беларуская сьвядомасьць, а ў сэрцы беларуская справа — Дзень 25-га Сакавіка ёсьць найвялікшым нацыянальным сьвятам, якога ён, як Вялікадня, ня можа не ўшанаваць.

49-ыя угодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі сьвяткаваліся ў Таронта ў нядзелю 19-га сакавіка. З самай раніцы зьяжджаліся людзі зблізку й здалёку ў цэрквы Сьв. Кірылы Тураўскага й Сьв. Еўфрасіньні Полацкай, дзе адбываліся ўрачыстыя Багаслужбы.

Ад трэйцяй папаўдні народ стаў зьбірацца ў вялікай Славацкай залі на 1407 Дандас вуліцы. Сяньня гэта заля была прыбраная на беларускі й сьвяточны лад. Народу сабралася шмат — сваіх і гасьцей.

Акадэмія пачалася а гадз. 4-ай Канадыйскім гімнам. Старшыня Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады Др. В. Жук прывітаў гасьцей і суродзічаў, ды ў кароткім уступным слове падкрэсьліў значэньне сьвяткаваньня й веліч Акту 25-га Сакавіка. Тады даў слова папарадку двум дакладчыкам: сп. Р. Беразоўскаму, які гаварыў пабеларуску, і сп. К. Акуле, які меў свой даклад паангельску.

Сп. Р. Беразоўскі даў гістарычны нарыс, падзеяў, што папераджалі Акт Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, ды што адбыліся пасьля яго. Сп. К. Акула насьветліў тэму дня зь іншага пункту гледжаньня. Ён зьвярнуў увагу на хаваньне й хвальшаваньне беларускай гісторыі ў Савецкай Беларусі. Ён навязаў да 450-ых угодкаў беларускага друку й да Францішка Скарыны, якія так важныя, а так неадпаведна адзначаюцца ў БССР. Ён заклікаў (асабліва моладзь) паставіць сабе ў гэтым годзе за заданьне, як праект на стагодзьдзе Канады, вывучаньне беларускае мовы, чытаньне й падтрымоўваньне беларускае прэсы. Ён успомніў аб дню БССР на міжнароднай выстаўцы ў Монтрэалі й раіў спытаць у савецкіх прадстаўнікоў: чаму прапагуецца незалежнасьць і сувэрэннасьць БССР, калі іх у сапраўднасьці няма.

Пасьля дакладаў з прывітаньнямі выступалі госьці: прадстаўнік прэм'ера Канады сп. Пол Станішэўскі, які прачытаў прывітальную тэлеграму ад прэм'ера Лестара Пірсана; бурмістр Таронта, Вільям Дэнісон, які прыбыў на ўрачыстасьць із спадарыняй Дэнісон; пасол Правінцыяльнага Парлямэнту й Міністар Рэформаў Ален Гросман, які праз 10 ці болей год прыходзіць рэгулярна на сьвяткаваньне 25-га Сакавіка; пасол Правінцыяльнага Парлямэнту Джордж Бэн, Прэзыдэнт Украінскай Канадыйскай Фэдэрацыі Др. Міхал Кушпэта і сябра Рады Вольнай Чэхаславакіі Ёзэф Броўсэк.

Апрача гасьцей, што прамаўлялі, былі прысутнымі: сп. Юры Сілёнбэрг — сябра Экзэкутыўнага Камітэту Цэнтральнай Эстонскай Рады,



Удзельнікі танцавальных гурткоў дзьвюх арганізацыяў: Згуртаваньня Беларусаў Канады й Беларускага Нацыянальнага Аб'еднаньня пасьля выкананьня сваёй праграмы на Акадэміі на ўгодкі Акту 25 Сакавіка ў Таронта.

сп. Е. М. Абад'ян і сп. Атык'ян ад Армянскай Арганізацыі й Айцец Н. Тэннасэ із сп-няй Тэннасэ ад Румынскай этнічнай групы.

Былі ў нас і беларускія госьці із ЗША: Старшыня Аддзелу БАЗА ў Кліўлендзе сп. С. Карніловіч, Старшыня Беларускае Моладзі ў Кліўлендзе сп. Ў. Дунец і сп. К. Калоша.

Прывітальныя лісты прыслалі: Міністар без партфэлю й пасол Парлямэнту Ўолтэр Гордон, Правінцыяльны Міністар Грамадзкай Апекі сп. Джон Ярэмко, Лідэр НДП Т. С. Дагляс і Сэньёр Льезон Офіцэр на Цэнтральную Канаду сп. Г. П. Ален. Было шмат лістоў і ад розных беларускіх арганізацыяў. Усе яны былі прадстаўлены на сьвяткаваньні.

МАСТАЦКАЯ ЧАСТКА. Пасьля колькіхвіліннага перапынку пачалася мастацкая частка праграмы, якую вёў сп. Г. Барановіч.

Несьмяротныя словы й кліч Янкі Купалы: „Паўстань з народу нашага, прарок" у рэцытацыі Д-ра Раісы Жук прывялі аўдыторыю ў суважнасьць і цішыню. Ды не на доўга. Белая „Мяцеліца" ў відзе малых дзяўчатак у нацыянальных строях зь белымі хустачкамі, што ў такт танца павявалі над галовамі, зьмяніла настрой з паважнага на вясёлы. Толькі скончылася вясёлая сьнежная завея, выходзіць на сцэну трое падросткаў: Эва й Паўлюк Пашкевічы ды Язэп Пітушка — і бьюцам у вадказ на Купалаўскі заклік „Вазьмі-ж яго прысягу і зарок" дэклямуюць верш А. Зязюлі „Ня здраджу ... ніколі!" О як важна нам усім — ня здрадзіць ніколі, для ніякага бажка, ідэю 25-га Сакавіка!

„Як толькі ў сэрцы трывожным пачую..." дэклямуе чульліва „Пагоню" Максіма Багдановіча малая Гэля Барановіч. Тады ініцыятыву ў свае рукі пераймае трохі старэйшая моладзь. У шэсьць пар „Крыжачок", — аж разгону яму на сцэне малавата! У чатыры пары „Юрачка"! Ногі танцораў ходзяць спрытна й мякка, люба глядзець, але дзе-ж падзеўся сам Юрачка? Гэтым разам яго няма, ці не ажаніўся толькі!?

Пасьля Юрачкі — пантаніма „Полька вёска". Вясковыя дзеці падгледзілі сустрэчу маладой пары, ды давай, насьмешліва гуляючы й танцуючы, ёй патураць. „Польку вёску" выконваюць дзяўчаткі зь „Мяцеліцы" з дабаўкай Тулы й Паўлюка.

Мастацкую частку праграмы завяршыла традыцыйная „Лявоніха", а ўрачыстасьць закончылася беларускім нацыянальным гімнам.

У гэтым годзе ўражала й цешыла вялікая колькасьць моладзі, што брала ўдзел у мастацкай праграме. Дзеці, падросткі, дзяўчаты й дзяцюкі, усе ў нацыянальных вопратках, жывыя й вясёлыя — тварылі ладную групу, калі іх усіх сабралі на сцэне для супольнае фатаграфіі. Асабліва было прыемна чуць моладзь дэклямуючую вершы добрай беларускай вымовай, што сьветчыла, што яны ўжываюць сваю мову ня толькі на сьвяты й для вершаў, але й штодзенна.

„Мяцеліцай", груповай дэклямацыяй „Ня здраджу" й „Полькай вёскай" кіравала сп-ня Валя Пашкевіч, а ўдзельнікамі былі: Алеся Сладкоўская, Эва Пашкевіч, Ліля Шапарава, Галя, Ірэна й Марыя Казіцкія, Оля й Ірэна Ліцьвінчукі, Тула, Язэп Пітушка й Паўлюк Пашкевіч.

Танцавальнай групай старэйшае моладзі, якая выконвала „Крыжачок", „Юрачку" й „Лявоніху" — кіраваў сп. Барыс Кірка, а ўдзельнікамі былі: Ванда Крыванос, Рыта й Крыстына Целяшы, Вера Маркевіч, Ірэна Харэвіч, Тарэса Мышкоўская, Марыя Ванюк, Рышард Крыванос, Тамаш Кулеш, Ролянд Целеш, Якуб Харэвіч, Леў і Вальтэр Губар.

Абодвы гімны й да танцаў іграла аркестра сп. Баляслава Лісчонка з Атавы. У аркестры брала ўдзел з акардыёнам і сп-чня Валентына Сідарава, якая, на Доміньён Дэй, была выбрана каралевай Атаўскай Беларускай Калёніі.

У падрыхтоўцы й у часе сьвяткаваньня ўлажылі шмат працы, апрача вышэй успомненых, сакратар ККБК сп-ня Лена Кулеш, скарбнік сп. Язэп Пітушка (старэйшы), сп-ва Ганькі, сп-ня Надзя Барановіч, сп. Я. Баран, Янка Рудніцкі — ды шмат іншых.

Усім тым, што спрычыніліся да ўдачы сьвяткаваньня, Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады складае шчырую падзяку.

Р. Жук

## СХОД БЕЛАРУСКАЙ КАСЫ КРЭДЫТ ЮНЬЁН

Агульны гадавы сход Беларускай Касы Крэдыт Юньён адбыўся ў нядзелю 5 сакавіка ў Бел. Рэл.-Грам. Цэнтры ў Таронта. Сход вёў старшыня дырэкцыі Касы сп. М. Ганько, а сакратаром быў сп. Брокінг.

Былі выслуханы справаздачы Дырэкцыі — скарбніка сп. Я. Чорнага, Пазычковай Камісіі — сп. У. Целеш і Рэвізыйнай Камісіі — Др. В. Жук. Із справаздачаў выявілася, што Каса знаходзіцца ў добрым стане. Дыспануе капіталам (з ашчаднасьцяў сяброў і паёў) панад 22.000.00 дал. Выдае меншыя пазыкі й большыя на мортгэйджы. У мінулым справаздаўчым годзе на пазыках было $ 14.596.00. Пазыкі сплачваюцца добра. Праз 15 гадоў існаваньня Касы былі толькі дзьве благія пазыкі, якія прыйшлося сьцягваць судом. За справаздаўчы год Каса мела чыстага даходу $ 655.89, які быў падзелены як дывідэнды на паі й ашчаднасьці. Каса мае 60 сяброў і абслугоўвае ня толькі адзінкі, але й беларускія арганізацыі.

За час свайго існаваньня Каса вельмі шмат дапамагла сваім сябром у ўладжаньні іх жыцьця — найбольш пры куплі іх дамоў і самаходаў. Трэба сказаць, аднак, што капітал мог-бы быць куды большы й дапамога грамадзтву была-б большая, калі-б нашы людзі складалі свае ашчаднасьці ў сваёй касе, а ня ў розных банках. Тады можна было-б даваць большыя пазыкі — на якія ёсьць сталае запатрабаваньне — і мець большы прыбытак, а гэта значыць і большыя дывідэнды на паі й ашчаднасьці.

На сходзе была зьвернута ўвага на адсутнасьць культурна-асьветнай працы, на ўсьведамляньне грамадзтва што да значэньня й карысьці Касы, тым больш, што дзеля гэтай мэты існуе адмысловы культурна-асьветны фонд. У сувязі з гэтым сход пастанавіў зьвярнуць большую ўвагу на культурна-асьветную працу, а перадусім на інфармаваньне грамадзтва аб ролі й значаньні Касы Крэдыт Юньён.

Пасьля давыбару сяброў у пасобныя камісіі Касы — склад іх прадстаўляецца наступна:

Дырэкцыя: сп. М. Ганько, сп. Стальмашок, сп. Я. Чорны, сп. Брокінг і сп. Я. Баран.

Пазычковая Камісія: сп. У. Целеш, сп. Ю. Слаўко й сп-ня І. Лабузава.

Рэвізыйная Камісія: Др. В. Жук, сп. Б. Кірка і сп. В. Крыванос.

Між іншага сёлетні агульны сход Касы адзначаўся большым удзелам і зацікаўленьнем сяброў.

## ХРОНІКА

● **Запусная вечарына** — адбылася ў сыботу 4 сакавіка. Ладзіла яе Галоўная Управа ЗБК. Гэта ўжо трэйцяя вечарына ад Новага году. Іграла аркестра сп. Лішчонка й быў добры буфэт. Людзей было менш як на папярэдніх вечарынах, але вечар прайшоў прыемна й вясёла ў сваёй сяброўскай атмасфэры. Даход зь вечарыны папоўніў касу ЗБК.

● **Беларускі „Брыф" у справе іміграцыі.** На жаданьне Адмысловага Злучанага Камітэту Сэнату й Гаўз оф Камонс, Згуртаваньне Беларусаў Канады зладжыла свой „Брыф" — свае заўвагі — адносна зьменаў у Іміграцыйным Акце, што зьмешчаны ў нядаўна апрацаваным праекце пад назовам „Ўайт Пэйпэр он Імігрэйшн". Апрацаваў беларускі „Брыф" старшыня ЗБК Мгр. А. Грыцук. Злучаны Камітэт Сэнату й Гаўз оф Камонс зацікавіўся беларускім „Брыфам" і запрасіў Мгр-а А. Грыцука ў Атаву дзеля абмяркаваньня яго.

● **Каардынацыйны Камітэт Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі.** У Аўстраліі заснаваўся Каардынацыйны Камітэт Беларускіх Арганізацыяў. Ён прыслаў наступнае прывітаньне:

Старшыні Каардынацыйнага Камітэту Беларускіх Арганізацыяў у Канадзе.

Ад імя Беларусаў у Аўстраліі, згуртаваных у Каардынацыйным Камітэце Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі — вітаем Вас, Сяброў Управы й Усіх Сяброў Вашых Арганізацыяў — з нашым найбольшым нацыянальным сьвятам — 49-мі ўгодкамі абвешчаньня Вольнай і Незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі — дня 25-га сакавіка 1918-га году — і жадаем усім Вам здароўя, сілаў і вытрываласьці ў працы — дзеля зьдзейсьненьня ідэалу Акту 25-га Сакавіка. Жыве Беларусь! Падпісалі: М. Скабей, старшыня ККБАА і М. Нікан, сакратар.

● **Падзяка.** Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады й Беларускія Арганізацыі, якія ў яго ўваходзяць, складаюць шчырую падзяку ўсім Беларускім Арганізацыям і асобам, што прыслалі свае прывітаньні з 49-мі ўгодкамі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

● **Інфармацыі аб Сусьветнай Выстаўцы у Монтрэалі.** Сусьветная Выстаўка ў Монтрэалі — у скарочаньні ЭКСПО 67 — адкрываецца 28-га красавіка й будзе трываць да 27-га кастрычніка 1967 году. Адчынена будзе штодзень ад 9:30 раніцы да 9:30 вечара. Рэстараны на Выстаўцы будуць адчынены ад 10-ай раніцы да 1-ай ночы. Раён ігрышчаў Ля Ронд будзе чынны аж да 2:30 раніцы. Для ўсіх тых, што змогуць паказаць білет зь вячорных імпрэзаў Сусьветнага Фэстывалю — уступ у Ля Ронд бясплатны.

Штодзённыя імпрэзы Сусьветнага Фэстывалю маюць адбывацца ў сямі мясцох: у трох тэатрах Place des Arts

### ПАПРАЎКА

У папярэднім 119 нумары „Беларуса" на бач. 4-ай у зацемцы „Міжнародная прадажа печыва" пад фатаздымкам пры ламаньні нумару выпаў адзін радок, у выніку чаго пры пералічэньні сяброўак ЗБЖК, што спрычыніліся да наладжаньня гэтае імпрэзы, аказаліся прапушчанымі прозьвішчы спадарынь: **Надзі Барановіч, Ліды Целеш і Ірыны Касьцюкевіч.** Мы моцна перапрашаем вышэй успомненых Спадарынь за гэты прыкры выпадак.

Рэдакцыя

### ТЭЛЕГРАМА ПРЭМ'ЕРА КАНАДЫ

**Прэм'ер Канады Лестар Б. Пірсан на ўгодкі 25 Сакавіка прыслаў на адрыс Беларуска-Канадыйскага Каардынацыйнага Камітэту тэлеграму наступнага зьместу:**

**I would appreciate it if you would convey my most cordial greetings to all taking part in celebrations on March 19 of the Byelorussian-Canadian Coordinating Committee to mark the 49th Anniversary of the proclamation of the Independence of Byelorussia.**

**Canadians of all origins appreciate the continuing contribution of Canadians of Byelorussian origin to Canada's development and their devotion to the ideals of liberty and individual equality.**

**L. B. Pirson**
**Prime Minister**

*СЯРОД СУРОДЗІЧАЎ У КЛІЎЛЕНДЗЕ*

### ВЯЛІКІ ПРЫЯЦЕЛЬ БЕЛАРУСАЎ У КЛІЎЛЕНДЗЕ

Выдатны дзеяч Рэспубліканскай Партыі ў Кліўлендзе сп. Ралф Пэрк склікаў быў 13 лютага нараду прадстаўнікоў розных нацыянальных арганізацыяў, у тым ліку й ад Аддзелу БАЗА ў Кліўлендзе. Нарада мела за заданьне скаардынаваць і зактывізаваць розныя арганізацыі ў вялікім Кліўлендзе. Беларускія прадстаўнікі А. К. і Я. Р. запрапанавалі, каб наступная такая нарада, што мае адбыцца ў палавіне красавіка, адбылася якраз у Беларусаў.

Сп. Ралф Пэрк бліскуча выйграў на нядаўных выбарах у Гарадзкую Управу, як Каўнты Аўдытар. З гэтае нагоды мясцовы Інтэрнацыянальны Камітэт зладзіў вялікае прыняцьцё ў ягоную чэсьць. Зыбралася вельмі шмат людзей: гарадзкіх чыноўнікаў розных арганізацыяў ды нацыянальных групаў. Ад Беларусаў былі прысутнымі на банкеце сп. сп. Гумен, А. Кабяк, Я. Раковіч і С. Карніловіч. Зустрэўшыся зь імі, сп. Пэрк прыгадаў свой удзел і выступленьне з прамовай на леташняй 7-ай Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, што адбылася ў Кліўлендзе .

С. К.

### АГУЛЬНЫ СХОД ПАРАХВІЯНАЎ БАПЦарквы Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ

19 лютага сёлета адбыўся Агульны Перавыбарны Сход парахвіянаў БАПЦарквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе. За старшыню сходу быў выбраны сп. П. Дварэцкі, за сакратара — сп. В. Падліпскі. У новую Царкоўную Раду выбраныя: сп. В. Радзюк — старшыня, сп. В. Валюкевіч — заст. старшыні, сп. М. Гумен — сакратар, сп. М. Ягаўдзік — скарбнік, сп. сп. Я. Яраховіч, А. Лук'янчык і Я. Раковіч — сябры ўправы.

### 450-ГОДЗЬДЗЕ БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

26 лютага Аддзел БАЗА ў Кліўлендзе адзначыў 450-ыя ўгодкі беларускага друку. Выдатны беларускі першадрукар Францішак Скарына 6 жніўня 1517 году надрукаваў „Псалтыр", чым і запачаткаваў беларускі друк. Рэфэрат пра гэта прачытаў сп. Ю. К. Пасьля адбыўся скромны пачастунак. Сп. М. С. прадэклямаваў верш А. Барскага, прысьвечаны Францішку Скарыне.

### НОВАЯ УПРАВА БЕЛАРУСКАГА ЖАНОЦКАГА ЗГУРТАВАНЬНЯ Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ

На нядаўна адбытым Агульным Сходзе ў новую управу Беларускага Жаноцкага Згуртаваньня ў Кліўлендзе выбраныя сп-ні — К. Каляда — старшыня, Я. Раковіч — скарбнік, Г. Кананчук — заст. старшыні, О. Лукашэвіч, К. Валюкевіч, К. Грынкевіч, М. Міхальчык — сяброўкі ўправы. Функцыі сакратара выконваюцца па чарзе сяброўкамі ўправы.

Управа пастанавіла акуратна апошнія суботы кажнага месяца зьбірацца на свае культурныя вечары, на якіх будуць абмяркоўвацца розныя справы, што датычаць жанчын. Вечары будуць заканчвацца супольным пачастункам.

### СКОНЧЫЎ ВЫШЭЙШУЮ ШКОЛУ

Сябра ЗБМА ў Кліўлендзе Андрэй Лук'янчык скончыў каледж і атрымаў дыплём інжынера. Бацькі Андрэя, А. і М. Лук'янчыкі, шмат налажылі цяжкасьцяў у сувязі зь ягонай навукай, але іхныя высілкі не змарнаваліся. Наагул-жа сям'я Лук'янчыкаў тут ведамая сваёй актыўнасьцяй сярод беларускай калёніі.

С. К.

### НОТЫ ДЛЯ АКАРДЫЁНУ

Ужо за некалькі тыдняў выйдуць ноты для акардыёну „Родныя Матывы". Выданьне зьмяшчае 60 беларускіх песьняў і танцаў, апрацаваных для акардыёну праф. М. Куліковічам. Уся вокладка кнігі пакрытая нацыянальным арнамантам. Ветліва просім усё беларускае грамадзтва прысылаць заказы на гэтае выданьне, чым будзе дадзеная магчымасьць выдаваць наступныя сьпеўнікі. Таксама просім разьлічыцца за папярэднія выданьні.

### ВЕЧАР ДЭКЛЯМАЦЫЯЎ У КЛІЎЛЕНДЗЕ

У пятніцу 31 сакавіка Вэстэрн Рязэрв Юнівэрсіты, Аддзел славянскіх моваў, арганізаваў вечар дэклямацыяў, у якім прынялі ўдзел прадстаўнікі ўсіх славянскіх народаў. Ад Беларусаў з дэклямацыямі выступалі вучні Беларускае Сыботняе Школы й сябры ЗБМА. У дэклямацыях на беларускай мове заняла першае месца Галіна Кананчук, другое — Васіль Каваленка й трэйцяе — Рагнеда Дунец. Ад Беларусаў у складзе судзьдзяў былі сп. сп. К. Кіслы, Ул. Дунец і К. Калоша.

Найлепш былі падрыхтаванымі й добра дэклямавалі Украінцы й Славэнцы. Ад 10 раніцы да 10 гадз. вечара была выстаўка. Беларускую выстаўку наладзіла моладзь. Яна была адна зь цікавейшых. Прафэсары, студэнты й наведвальнікі зь вялікім зацікаўленьнем аглядалі беларускія экспанаты ды задавалі шмат пытаньняў. Пры выстаўцы дзяжурылі Галіна Кананчук, Эва Дунец і Рагнеда Дунец. Вялікім недахопам для нашай выстаўкі была адсутнасьць добрае карты Беларусі й адпаведнай інфармацыі ў ангельскай мове.

СЬВЯТОЙ  ПАМЯЦІ

## НАТАЛЬЛЯ (ТУСЯ) КУШАЛЬ

пасьля доўсае й цяжкае хваробы памерла
23 сакавіка 1967 г. у веку 38 год і пахаваная
на магілках у Рочэстары, штату Нью Ёрк.
Шчырыя спачуваньні мужу, дзецям, бацьком і сваяком выказвае
РЭДАКЦЫЯ ГАЗЭТЫ „БЕЛАРУС"

## ПАСЬМЕРТНАЯ ЗГАДКА

Вось ужо некалькі месяцаў, як пустуе адно крэсла на „жаноцкай старане" ў Царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку. Гэтае крэсла калісьці займала сьв. пам. Сьцепаніда Стома, якая адыйшла ад нас у лепшае жыцьцё ў веку 85 год. Нябожчыца нарадзілася ў мястэчку Лужкі Дзісьненскага павету.

Ад часу заснаваньня нашае царквы ў 1951 годзе, мы прывыклі бачыць на кажнай Багаслужбе і на тым самым месцы пагружаную ў малітве „Бабусю", як шмат хто з нас называў яе.

Нябожчыца горача любіла сваю родную Царкву, страчаную Бацькаўшчыну й сваіх людзей. Цешылася, калі ў нашай грамадзе было ўсё ў парадку, і хварэла душой за нашыя супольныя няўдачы. Яна мела добрае слова, пацеху й параду для кажнага. Ніколі не наракала й за ўсё дзякавала Богу, навет за цярпеньні й хваробу, якая ёй дакучала доўгія гады.

Яе любілі й паважалі ўсе, довадам чаго былі мнагалюдныя й урачыстыя пахаваньні. Не зважаючы на працоўны дзень, разьвітацца зь ёй прыйшлі амаль усе.

Пасьля Заўпакойнай Літургіі, адслужанай Яго Высокапраасьвяшчэнствам Архіяпіскапам Васілём і Мітрафорным Пратаярэям а. Сьцяпанам Войтэнкам з хорам пад кіраўніцтвам сп. Філярэта Родзькі, мы адвялі нашу Дарагую Нябожчыцу на вечны супачынак на Беларускія Могілкі ў Іст Брансьвік. І яшчэ доўгі час пасьля Ейнай сьмерці, пасьля нядзельных Багаслужбаў служыліся Паніхіды за супакой Ейнай душы. Паніхіды гэтыя закупліваліся сем'ямі прыяцеляў і знаёмых Нябожчыцы.

Сьпі супакойным сном нашая дарагая й найстарэйшая парахвіянка! Няхай Усемагутны прыйме Тваю сьветлую душу ў сваё Нябеснае Ўладарства!

Хоць Тваё крэсла засталося пустым, але памяць аб Табе жыве ў нашых сэрцах. Парахвіянін

*СЯРОД СУРОДЗІЧАЎ У НЬЮ ДЖЭРЗІ*

## ПЕРАВЫБАРЫ ЦАРКОЎНАЙ РАДЫ

Гэтым разам было шмат моладзі на гадавым сходзе парахвіянаў БАПЦарквы Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку (прадмесьце Нью Брансьвіку). Аб старэйшых яшчэ можна шмат дрэннага сказаць: яны думаюць, што калі дадуць паперку даверу жонцы ці камусьці аднаму на ўсю сям'ю, дык ужо заслуга перад народам. Забываюцца, што сход робіцца перадусім для людзей, а не для царквы. Трэба зьбірацца, каб абгаварыць, што трэба, і далажыцца да супольнага дабра, а ня толькі кінуць голас, падняць палец на выбарах.

А выбіраць ня было патрэбы. Папярэдняя Царкоўная Рада так прыклалася ў ваднаўленьні царкоўнага будынку, у гуртаваньні людзей вакол царквы, сьвятара ды Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, у палепшаньні сужыцьця між парахвіянамі, а нат у дачыненьні да іншаверных Беларусаў ваколіцы, што тут трэба было толькі прасіць, каб і далей старалася рабіць, як і рабіла, ды служыць народу „яшчэ гадок", як гэта добра сказаў сп. Літвіненка.

Абмяркоўвалася шмат важных рэчаў. Царква можа збольшыць рэчыўны дабрабыт купленьнем яшчэ аднае хаты на заработак наймальнікамі памешканьняў. Цяпер можна збольшыць грамадзкі даход: ёсьць прыгожая адноўленая заля грамадзкага асяродку. Абгаварвалася справа наладжаньня давучаньня малых і старых беларускай мовы. Драматычны гурток, танцавальны, грамадзкі народны хор.

Прысутныя на сходзе прадстаўнікі БАЗА, Згуртаваньня Моладзі, Згуртаваньня Жанчын падтрымалі думку разьвіцьця сяброўскай і грамадзкай дзейнасьці. Усе гэтыя згуртаваньні выключаюць культурна-асьветных дзеячоў да супольнае натугі. Ужо цяпер у вялікі пост можна пасьпяхова паставіць пару сцэнічных абразкоў зь Яванґельля. Гледачоў хопіць.

Спрачаюцца ў Гайлэнд Парку, як зрабіць усё лепей, хутчэй, выдатней. Але спрэчкі няма аб тым, хто мае быць правадыром, прэзыдэнтам, старшынём. Таму што грамада бярэ за жабры тых шукальнікаў улады, хто ня выказваецца дзейнасьцяй. Таму тут адзін чалавек урадуе ў ваднэй установе, а ня ў трох, як гэта ёсьць у іншых беларускіх асяродках. Нямашака тут часу на расьцярушанасьць і нашэньне каронаў ува ўсіх згуртаваньнях.

Маленькая гайлендпаркаўская грамада, але як-жа дружная. І калі так будзе далей, дык ня трэба быць прарокам, каб ведаць, што беларускі грамадзкі цэнтр Амэрыкі будзе ў хуткім часе якраз у Гайлэнд Парку.

## ЗАПУСТЫ У НЬЮ БРАНСЬВІКУ

Шкадуй той, хто ня быў на Запустах 4 сакавіка. Змарнаваў вялікую нагоду ў жыцьці. Такія Запусты бываюць толькі раз на год, ды й то ня кажны.

Адноўленая заля Народнага Дому зіхацела габляванымі дошкамі. Круглыя й касавокія, вялікія й малыя вочы хвойкі міргалі, віталі, запрашалі. Дзядзька Сільвановіч зь мясцовай хвойкі патрапіў зрабіць запраўдны царскі церам.

А музыка! Прайдзі Менск, Пінск, Бранск — можа толькі ля Мазыра такіх музыкаў знойдзеш. Усё, што струны, пішчык, барабан могуць выцягнуць, выдзьмухнуць, выбіць, браты Бычкоўскія выцягнулі й далі танцуючым. Мяккі бас сьпевака ласкатаў слых ды ўліваўся ў сэрцы беларускай песьняй.

А бліны! Славіцца імі Браслаў, Будслаў, Амсьціслаў, але толькі ля Крывічоў пякуць такія бліны. Усё, што можа патэльня выпячы з мукі, дражджэй, усё, што рукі й спадчынная веда Крывічанак можа зрабіць, было ў тых духмяных, пухкіх, гладкіх блінох. Цалаваць, а ня есьці.

Можна шмат казаць пра круглы воблік каўбасы, румяныя шчочкі паляндвіцы, але нічым ня можна адтварыць красы, смаку ды творчага ўкладу ў верашчаку.

Ах верашчака! Прыцягнула ўсіх да талерак. І тых, хто добра пасілкаваўся дома. Больш тых, хто не пасьпеў. Перамагла сілу пілюляк на гублянньне хунтаў. Зацьміла вочы даглядальніц тонкай стані.

Варылі верашчаку дзьве, а раілі, як варыць, можа дзьвесьце, калі-б палічыць. Толькі прыварак дае добрую верашчаку. А дзе-ж тут дастанеш Любчанскага прыварку? Толькі жытняя мука зь пялёсткамі сьпелага жыта летнім сонцам, што пераліваецца ў верашчаку. Жытняя мука, камень на камені молата, дае добрую верашчаку. Масла трэба даваць у верашчаку. Хунт на кварту! Толькі маргарыны зь ненасычаных кукурузных алеяў, каб без халястаролю. Халястароль нішчыць сэрца. Дык што з таго, што пападзеш у чалавечае сэрца праз страўнік, калі тое сэрца сьціснутае халястаролевай каронаю!

Белы перац трэба ў верашчаку. Чорны — турэцкі, белы — ангельскі. Мускату, гвазьдзікоў. Мяса із скабкаў, кусочкі сала. І трэба было бачыць, як гэтае салца загарала, быццам тыя дзяўчаткі на пяску Сібрайту. І солі не забыліся.

Усе елі верашчаку. Ня зьелі, а каб сам прыйшоў, верашчаку зьеў-бы й талерку вылізаў. Шкадуй цяпер цэлы год, што ня быў.

В.

524-28 St. Clarens Avenue Toronto 4, Ontario.

# „ПАГОНЯ"

### БЕЛАРУСКА-КАНАДЫЙСКІ ВЫДАВЕЦКА-МАСТАЦКІ КЛЮБ
### BYELORUSSIAN-CANADIAN PUBLISHERS & ARTS CLUB

ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ!

Калі даўней Беларус прыносіў свой уклад у навуку й культуру, або змагаўся за вызваленьне бацькаўшчыны, дык заўсёды на помач паклікаў роднае друкаванае слова. Сёлета ёсьць 450-ыя ўгодкі выхаду ў сьвет беларускай біблії нашага слаўнага першадрукара Францішка Скарыны, што кнігамі „для люду паспалітага" пачаў навукова-культурны прагрэс на Беларусі і Ўсходняй Эўропе. Прыгадайце таксама „Мужыцкую Праўду" несьмяротнага Кастуся Каліноўскага, „Нашу Долю" й „Нашу Ніву" дый заложаную нашымі студэнтамі ў 1906 годзе ў Пецярбурзе выдавецкую суполку „Загляне сонца і ў наша ваконца".

Падумайце, як быў-бы спознены навукова-культурны прагрэс ува Ўсходняй Эўропе, калі-б ня друкі Скарыны. А ці магчыма было-б адраджэньне беларускага народу бяз „Нашае Нівы"?

Ясна, чаму маскоўскія калянізатары нашай бацькаўшчыны не даюць сяньня волі беларускаму друкаванаму слову. Мора расейшчыны плыве зь беларускіх друкарняў, а сьвятыні навукі сталіся кузьнямі народнага ачмурэньня. А які-ж уклад змагла-б даць у вызвольнае змаганьне й нашу культуру беларуская эміграцыя бяз кніжак і газэтаў у роднай мове?

Каб хоць у сьціплых рамках рэгулярна выдаваць свае кнігі, кружэлкі родных песьняў і інш., сёлета ў студзені паўстаў ў Тароньце Выд.-Маст. Клюб „Пагоня". Яшчэ да афармленьня гуртка пад фірмай „Пагоні" выйшла Акулава кніга „Дзярлівая Птушка" й кружэлка цудоўных песьняў у выкананьні Забэйды Суміцкага.

Клюб „Пагоня" лічыць на Вашу зразуменьне й падтрымку. Гэтта й заклікаем Вас на помач. Калі бедныя й паўгалодныя беларускія студэнты ў Пецярбурзе паўстагодзьдзя таму назад змаглі так шмат выдаць кніжак, дык як-жа астацца могуць ззаду нашыя „багатыя Амэрыканцы"?

Каб быць сябрам „Пагоні", трэба даць адаразова 50 дал. Усе выданьні клюбу кажны сябра будзе атрымліваць задарма. Прыходны капітал за продаж кніжак ці кружэлак, зь лётарэяў і інш. будзе аставацца ў „Пагоні", каб была пастаянная фінансавая база для выданьня ў будучыні.

Просім Вас, Паважаныя Суродзічы, адгукніцца неадкладна. Грошы ды эвэнтуальныя пытаньні й пажаданьні накіроўваць на вышэйпаданы адрыс.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

Таронта, Сакавік, 1967 г.

**А. Маркевіч — сакратар**

**К. Акула — старшыня**

### ЗАВЯЗВАЛАСЯ ЦІКАВАЯ ГУТАРКА...

Сёлета ў нядзелю 2-га красавіка ў таронцкім унівэрсытэце Ёрк адбылася цікавая палеміка, арганізатарам якое была мясцовая студэнцкая група „Сьцюдэнт дыбэйтынг Сосаеты" (старшыня Ліпскар—Жыд). У палеміцы, што была фіналам дыскусіяў, якія адбываліся ў пятніцу й сыботу, узялі ўдзел Амэрыканцы (унівэрсытэт Ваймінг) і два студэнты — Брычкоў і Кубікаў з маскоўскага унівэрсытэту ім. Леніна. Тэмай палемікі быў Ветнам.

Удзел Задзіночаных Штатаў у ветнамскай вайне ёсьць непапулярны між Канадыйцаў. Дзіва няма, што выступленьні маскоўскіх студэнтаў былі прыхільна вітаныя. Адылі Амэрыканцы мелі кругом перавагу, бо — як-ні-як — маскоўская прапаганда проці важкіх фактаў на адкрытым публічным форуме — абсалютны ноль. У гімнастычнай залі, дзе адбывалася палеміка, было прысутных звыш 1500 людзей. СБС перадавала палеміку па тэлевізіі на цэлую Канаду.

Пасьля канца палемікі былі дазволеныя пытаньні ад публікі, і, між іншых, узяў голас прысутны беларускі пісьменьнік К. Акула. Адбылася такая гутарка:

**Акула:** Сп-р старшыня, я маю пытаньне да маскоўскіх студэнтаў. — Ваш урад ведамы із сваіх дэклярацыяў падтрыманьня г. зв. антыкаляніяльных змаганьняў і вызвольных рухаў на цэлым сьвеце. Усім тут прысутным ведама, што такія каляніяльныя дзяржавы, як Вялікая Брытанія і інш. пасьля апошняе вайны далі вольнасьць сотням міліёнаў людзей. Тымчасам у межах вашай савецкай дзяржавы бальшыня людзей гэта не Расейцы, якіх вы паняволілі сілай. Чаму-ж вы не дасьце гэтым людзём і народам волі, каб яны выказаліся й пастанавілі аб сваім лёсе. (На залі воплескі).

**Брычкоў:** Якую прэсу вы чытаеце?

**Акула:** Ды чытаю вашу савецкую й нашу канадыйскую ды амэрыканскую.

**Брычкоў:** Якую савецкую прэсу чытаеце?

**Акула:** „Праўду", „Ізьвесьція" ды іншую.

**Брычкоў:** Калі так, дык вы павінны ведаць, што ў нас мінулага месяца адбыліся па ўсім Саюзе выбары дэпутатаў у саветы.

**Акула:** Так, чытаў пра гэта. Але я адзін з тых, каторага вы ў трыццаць дзявятым годзе „вызвалілі" ад хлеба й масла (рогат на залі), дык ведаю цану вашым выбарам. Гэта суцэльны абман. Але я не пра гэта...

**Старшыня Ліпскар:** Прабачце, калі ласка, але ваша дыскусія не адносіцца да Ветнаму. Будзьце ласкавы спыніцца яе.

Шкада, што сп-р Ліпскар спыніў гэту цікавую гутарку. Ды трэба яму паспачуваць. Чаго добрага, Акула падняў-бы на публічны сьмех маладых прадстаўнікоў маскоўскага мядзьведзя, зь якім цяперака Канадыйцы любяць у дружбу забаўляцца. Пшаніцы-ж вунь колькі яму прадалі, а зробленыя даляры найлепшы аргумант у часе выбараў...